На прастор, на шырокі разлог
Выхадзі, мой народ, грамадою...
Якуб КОЛАС

№85 (1898)
Пятніца, 14 мая 2004 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць —
5 разоў у тыдзень
Выдавец:
УП «Народная воля»
Кошт свабодны.

# Народная Воля

E-mail: nv@promedia.by
http://nv.promedia.by

### Надвор'е

У Мінску сёння ўдзень чакаецца — +10...+12, уначы — 0...+2; у Брэсце ўдзень — +11...+13, уначы — +2...+4; у Гродне ўдзень — +11...+13, уначы — +3...+5; у Віцебску ўдзень — +9...+11, уначы — +2...+4; у Гомелі ўдзень — +11...+13, уначы — +1:..+3; у Магілёве ўдзень — +10...+12, уначы — 0..+2.

Па ўсёй краіне на працягу сутак — сонечна, без ападкаў.

www.meteo.by



ПУЛЬС

## Лябедзьку аштрафавалі на 1 мільён 900 тысяч рублёў

Старшыня Аб'яднанай грамадзянскай партыі (АГП) Анатоль Лябедзька аштрафаваны на 100 базавых велічынь (1 мільён 900 тысяч рублёў). Такое рашэнне па адміністрацыйнай справе палітыка вынес 12 мая пасля чатырохгадзіннага разбору суддзя суда Савецкага раёна горада Мінска **Руслан Казадаеў**.

Анатоль Лябедзька аштрафаваны за ўдзел у арганізаваным апазіцыяй 26 красавіка "Чарнобыльскім шляху".

Сам А.Лябедзька свой удзел у шэсці не пацвярджае. Паводле слоў лідэра АГП, ён сапраўды прысутнічаў 26 красавіка на плошчы Якуба Коласа, дзе збіраліся перад шэсцем удзельнікі акцыі апазіцыі, аднак у шэсці ўдзелу не браў. А "знаходжанне на плошчы не з'яўляецца правапарушэннем", заявіў А.Лябедзька.

Палітык лічыць гэту справу "палітычным заказам". Ён таксама паведаміў, што неўзабаве збіраецца абскардзіць гэтае рашэнне ва ўстаноўленым законам парадку.

**Юрый ПАЦЁМКІН.**

## Моладзь — за беларускую мову

Як паведаміў сакратарыят Грамадскага аб'яднання "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны", 8 мая 41.129 чалавек добраахвотна прыйшлі здаваць беларускую мову ў пункты правядзення цэнтралізаванага тэсціравання. Гэта больш, чым колькасць тых, хто здаваў рускую мову (37.689), матэматыку (38.199) і іншыя прадметы.

Такім чынам, наша моладзь, узгадаваная ў незалежнай Беларусі, даказала, што родная мова жыла і будзе жыць, нягледзячы на ўсе праявы сённяшняй русіфікацыі. ГА "ТБМ імя Ф.Скарыны" шчыра віншуе вас, дарагія юнакі і дзяўчаты, хто шануе мову нашай Бацькаўшчыны, і спадзяецца, што значная колькасць маладых людзей абярэ беларускую мову і падчас абавязковага тэсціравання, якое фінансуецца з бюджэту і адбудзецца ў канцы мая.

**Тарас АНАТОЛЬЕЎ.**

## На Брэстчыне забаронены продаж страчкоў і смаржкоў

Распараджэнне аб забароне прадаваць на рынках вясновыя грыбы страчкі і смаржкі падпісаў 12 мая галоўны санітарны ўрач Брэсцкай вобласці Алег Арнаутаў.

Гэтае рашэнне, як паведаміла карэспандэнту БелаПАН загадчыца санітарнага аддзела абласнога цэнтра гігіены, эпідэміялогіі і грамадскага здароўя Таццяна Корчык, звязана з тым, што за апошні час у рэгіёне было зарэгістравана пяць выпадкаў атручання смаржкамі. Пры гэтым у Брэсце і Баранавічах чатыры жанчыны атруціліся грыбамі, набытымі на рынках. Яшчэ адзін чалавек атруціўся ў Лунінецкім раёне.

Усяго ў Беларусі ад ужывання ў ежу страчкоў і смаржкоў пацярпелі 28 чалавек, трое з іх памерлі.

**Ларыса ШЫГАНАВА.**

## Аляксандра і Канстанцін вяртаюцца ў Мінск

Беларускія ўдзельнікі міжнароднага конкурсу песні "Еўрабачанне-2004" дуэт "Аляксандра і Канстанцін" не выйшлі ў фінал спаборніцтва. Паўфінал адбыўся ўвечары 12 мая ў Стамбуле (Турцыя). Прамую трансляцыю вёў Першы нацыянальны тэлеканал. Акрамя таго, у студыі тэлеканала было арганізавана ток-шоу, прысвечанае спаборніцтву.

Беларусы выступалі пад другім нумарам сярод 22 паўфіналістаў. 10 фіналістаў былі вызначаны па выніках тэлефоннага галасавання, якое доўжылася дзесяць хвілін. У іх лік увайшлі Сербія і Чарнагорыя, Мальта, Нідэрланды, Албанія, Украіна, Харватыя, Боснія і Герцагавіна, Македонія, Грэцыя і Кіпр. Прадстаўнікі гэтых краін возьмуць удзел у фінале конкурсу "Еўрабачанне", які адбудзецца 15 мая. Яшчэ 14 краін, у тым ліку Расія, заваявалі сабе пуцёўкі ў фінал, паказаўшы высокія вынікі летась.

Каменціруючы вынікі конкурсу, кіраўнік ансамбля "Сябры" **Анатоль Ярмоленка,** які прысутнічаў на ток-шоу, адзначыў, што многія з канкурсантаў, якія выйшлі ў фінал, у прыватнасці, выканаўцы з Харватыі, Грэцыі і Нідэрландаў, **"былі вельмі арганічныя, чаго, на жаль, бракавала беларусам".** А.Ярмоленка адзначыў добрае выступленне Русланы з Украіны, яе "выдатны нумар" і спрагназаваў, што яна можа быць фаварыткай. *"Я ведаю магчымасці нашага дуэта, іх праблемы, але яны выступілі ў гэты раз горш, чым умеюць,* — сказаў ён. — *Мы далі ім шмат авансаў, раздзьмулі гэты конкурс да памераў найгалоўнейшай культурнай падзеі года, а насамрэч гэта шараговая падзея".*

Дуэт "Аляксандра і Канстанцін" вернецца ў Мінск пасля 15 мая.

**Юлія ЦЯЛЬЦЕЎСКАЯ.**

ЭКАНОМІКА

# Барометр эліты

## Адбылася гадавая канферэнцыя Грамадскага аб'яднання «Беларуская навукова-прамысловая асацыяцыя» і Беларускага саюза наймальнікаў

*Падзея гэтая не шараговая. У згаданых арганізацыях сабрана, па-сутнасці, прамысловая эліта краіны. Таму меркаванні, ацэнкі, рэкамендацыі, якія гучаць на такіх форумах, маюць выключна важнае значэнне. Такія канферэнцыі нібы барометр высвечваюць вузлавыя праблемы. Што паказаў барометр на гэты раз?*

### Крокі «БелАЗа»

Выступленне дырэктара вядомага прадпрыемства **Паўла МАРЫЕВА** было адным з самых яркіх. Гаварыў ён аб вопыце рэканструкцыі. Спецыялісты завода замахнуліся, здавалася б, на неверагоднае — стварэнне сучасных магутнасцяў па выпуску новых мадыфікацый машын, для чаго патрабавалася сотня мільёнаў долараў. А дзе ўзяць такія сродкі, калі цяжка нават аператыўна распрацаваць план буйной рэканструкцыі. Інстытуты не браліся за такую працу. Тады стварылі свой цэнтр, і праз тры месяцы план абнаўлення вытворчасці быў гатовы. Падалі заяўкі на абсталяванне заходнім фірмам і хутка адтуль атрымалі аж тры варыянты станкоў і механізмаў для выканання новых вытворчых задач.

Знайшлі ў Еўропе банк, гатовы выдаць такі вялікі крэдыт. Праўда, ён запатрабаваў гарантый ад урада краіны. А ва ўрадзе спасылаліся на немалую долю рызыкі. Прыйшлося разлікамі пераконваць у эфектыўнасці задуманага. І ўрад падтрымаў смелы праект...

Дырэктар выклаў сакрэты ўсіх этапаў рэканструкцыі. У зале стаяла цішыня.

Вынікі такія. Другі год заводскі партфель заказаў перагружаны. Значная частка прадукцыі ідзе на экспарт у краіны далёкага замежжа, адтуль паступаюць дзелавыя прапановы. Прадпрыемства нібы атрымала другое дыханне.

Цяпер мае такі ж праект МАЗ, збіраецца распрацоўваць МТЗ...

### Сёе-тое...

Гэта слова не раз гучала ў дакладзе, з якім выступіў старшыня аб'яднання "Беларуская навукова-прамысловая асацыяцыя" **Мікалай СТРАЛЬЦОЎ,** і ў дэбатах. І ў ім, як мне падалося, адна з галоўных праблем кіравання эканомікай.

Наша дзяржава забірае ў бюджэт у выглядзе падаткаў 34—36 працэнтаў зноў створанага прадукту. У іншых краінах з падобным узроўнем развіцця такі збор намнога ніжэйшы. У Расіі ён складае 19,5 працэнта, у Літве — 26,4. Эксперты Міжнароднай фінансавай карпарацыі лічаць, што для такіх краін, як Беларусь, згаданая падатковая нагрузка не павінна перавышаць 24 працэнты. Да таго ж вельмі няпростая справаздачнасць. Кожнае прадпрыемства штомесяц запаўняе дзесяткі разлікаў і справаздач па падатках, іх колькасць пастаянна расце. Спецыялісты асацыяцыі не раз рэкамендавалі ўладам зменшыць падатковую нагрузку і спрасціць справаздачнасць. Сёе-тое зроблена, але галоўная праблема застаецца.

Першы намеснік прэм'ер-міністра **Уладзімір СЯМАШКА,** які выступіў на канферэнцыі, пагадзіўся са сказаным, але ў сваю чаргу запытаўся: а дзе браць сродкі для абароны, аховы здароўя, датацыі сельскай гаспадаркі, калі зменшыць падаткі?

Не задаволены вытворцы і практыкай ліцэнзавання. Яны не раз дасылалі прапановы ў дзяржаўныя органы па яе лібералізацыі. Сёе-тое з прапаноў знайшло сваё адлюстраванне ў прэзідэнцкім Дэкрэце № 17. Колькасць відаў дзейнасці, якія падлягаюць ліцэнзаванню, зменшылася, але іх яшчэ зашмат, ды ўзніклі новыя праблемы.

Спецыялісты асацыяцыі не раз уносілі прапановы і па лібералізацыі рэгістрацыйных працэдур. У прыватнасці, раілі перайсці ад дазваляльнага прынцыпу да рэгістрацыйнага, спрасціць саму працэдуру. Дарэчы, у Расіі і ва Украіне гэта ўжо зроблена. Сёе-тое ўдалося выправіць і ў нас. Так, 8 красавіка сёлетняга года прыняты Указ Прэзідэнта № 175 "Аб пытаннях дзяржаўнай рэгістрацыі і ліквідацыі (сканчэння дзейнасці) юрыдычных асоб і індывідуальных прадпрымальнікаў", якім Міністэрства юстыцыі вызначана як орган па арганізацыйна-метадалагічным забеспячэнні, кантролі і каардынацыі рэгістрацыйных функцый. Такім чынам, зроблены яшчэ адзін крок па стварэнні адзінага рэгістрацыйнага органа. Разам з тым многія пытанні, у тым ліку і галоўнае — увядзенне рэгістрацыйнага прынцыпу замест дазваляльнага, пакуль не вырашана.

Сёе-тое, палавінчатасць рашэнняў — вось адзін з галоўных хібаў у кіраўніцтве эканомікай.

### Павярнуцца ад «вала» да якасці

Гаварылася і пра вялікія поспехі: пра рост у прамысловасці на 10 і болей працэнтаў. Асабліва нагадваў пра іх першы віцэ-прэм'ер Уладзімір Сямашка, падкрэсліваючы, што ўрад на правільным накірунку. Як кажуць, дай Бог, каб было так. Між тым высокія паказчыкі выклікаюць пэўны сумнеў. Мае суседзі па зале, калі гучалі лічбы росту, хітравата ўсміхаліся. Гэта была не паказная ўсмешка, а паказальная, тая ўсмешка, якую хочуць стрымаць, ды не ўдаецца.

Каб прыйшлі вялікія поспехі, патрэбны вялікія фінансавыя ўліванні ў крызісную эканоміку. Вопыт "БелАЗа" яскрава гэта пацвердзіў — уклалі сто мільёнаў долараў у рэканструкцыю, і да завода вярнулася другое дыханне. Але ж ва ўсю эканоміку такіх буйных уліванняў не было. А без нічога нічога і не бывае.

Нездарма некаторыя выступоўцы гаварылі аб неабходнасці павярнуцца ад валавых паказчыкаў да якасных. Бо пры росце выпуску прадукцыі слаба расце прыбытак. У гэтым плане паказальныя вынікі аднаго завода бытавой хіміі. Ён імкліва павялічыў выпуск прадукцыі, але застаўся стратным. Вось такі "вялікі" поспех.

Яшчэ больш паказальны знешнеэканамічны гандаль. Ён расце, павялічваецца экспарт прадукцыі ў замежжа, а сальда застаецца адмоўным. За мінулыя дзесяць гадоў яно ні разу не было станоўчым. Яно заўжды адмоўнае, вагаецца ад 760 мільёнаў долараў да 1,5 мільярда штогод. Гэта значыць, што ўся заробленая валюта, якая так патрэбна для развіцця ўласнай эканомікі, выпампоўваецца найперш у Расію ў выніку недасканалага гандлю. Каб палепшыць сітуацыю, трэба павялічваць экспарт і змяншаць імпарт. І тут сёе-тое зроблена. Аднак па-ранейшаму ў краіну завозіцца з-за мяжы шмат рэчаў, якія маглі б вырабляцца нашымі прадпрыемствамі.

Яшчэ адна парада прамыслоўцаў — паляпшаць інвестыцыйны клімат у краіне, для чаго варта выключыць залішняе ўмяшальніцтва дзяржавы ў эканамічную дзейнасць, адміністрацыйныя бар'еры, зрабіць стабільным гаспадарчае заканадаўства, правесці рэвізію падзаконных актаў, зменшыць колькасць праверак кантралюючых органаў, сумы штрафаў, прадаставіць гарантыі правоў уласнікаў.

На канферэнцыі было падкрэслена, што павелічэнне аб'ёмных паказчыкаў — не самамэта. З іх ростам павінен рэальна паляпшацца ўзровень жыцця грамадзян. Гэта важны тэзіс. Бадай, самы важны.

**Алесь ДРАБЧУК.**

ОСТРАЯ ТЕМА

## Будем без газа?

Годовая квота российских независимых поставщиков газа по продажам топлива Беларуси будет полностью выбрана к 25 мая 2004 года, сообщается на сайте российской газеты **"Время Новостей"**.

12 мая руководство "Белтрансгаза" подписало очередное соглашение с компанией "СИБУР" на закупку 168 миллионов кубометров газа, которого Беларуси хватит до 18 мая. К настоящему моменту общий объем газа, закупленный Минском у независимых поставщиков, составляет 7,9 миллиарда кубометров. А полностью квота в 8,2 миллиарда кубометров будет выбрана через полторы недели.

Таким образом, "Белтрансгазу" необходимо заключать новый договор с ОАО "Газпром", отмечает издание. Однако известно, что компании до сих пор не могут договориться о ценах на газ и его транзит по территории страны. "Газпром" предлагает Минску покупать газ по 50 долларов за тысячу кубометров, а транзит газа готов оплачивать из расчета 76 центов за транспортировку тысячи кубометров на 100 километров. В свою очередь белорусская сторона хочет получать газ по цене независимых поставщиков (примерно 46,67 долларов), а за газотранспортные услуги — по 1,02 доллара.

Как ожидается, проблема будет решена на уровне глав государств 21—22 мая. В эти дни в Ялте соберутся президенты России, Беларуси, Украины и Казахстана для обсуждения сотрудничества в рамках единого экономического пространства. По версии газеты, Владимир Путин вряд ли изменит позицию по данному вопросу и будет рекомендовать Александру Лукашенко согласиться на условия "Газпрома".

**Подготовил к печати Евгений ТАВГЕНЬ.**

## Еўракамісія выключыла Беларусь з праграмы «Новае суседства»

*Еўрапейская камісія (ЕК) лічыць, што надзей на больш блізкія кантакты з Беларуссю пры цяперашніх уладах няма. Пра гэта гаворыцца ў стратэгіі пабудовы дачыненняў з новымі суседзямі Еўрапейскага Саюза. Стратэгія падрыхтавана Еўракамісіяй і павінна быць афіцыйна ўхвалена на саміце ЕС у ліпені.*

Каменціруючы гэтыя варункі ў інтэрв'ю Радыё "Свабода" 12 мая, камісар у справах пашырэння Еўрасаюза і палітыкі еўрапейскага суседства **Гюнтэр Ферхойген** адзначыў: *"Еўракамісія прыняла дакумент з апісаннем стратэгіі палітыкі "Новае суседства", які цяпер павінен быць ухвалены 25 краінамі — членамі Еўрасаюза".* І хутчэй за ўсё краіны — члены ЕС гэты дакумент прымуць, мяркуе камісар.

Паводле слоў Г.Ферхойгена, дакумент тлумачыць стратэгію палітыкі "Новае суседства" і ясна дае зразумець, што шэраг краін, з якімі ЕС ужо мае рабочыя дамоўленасці, у тым ліку Малдова і Украіна, *"атрымаюць гэтак званы план дзеяння да павышэння інтэнсіўнасці кантактаў паміж гэтымі краінамі і Еўрасаюзам".*

*"Беларусь магла б быць выдатным кандыдатам для атрымання такога плана дзеянняў, калі б не аўтарытарны ўрад, дзякуючы якому Еўракамісія дыскваліфікуе Беларусь з ліку краін, з якімі Еўрасаюз хацеў бы падпісваць нейкія дамоўленасці",* — заявіў еўрапейскі чыноўнік. *"Пакуль у Мінску не адбудуцца пэўныя перамены, не будзе ніякага падключэння Беларусі да палітыкі "Новага суседства",* — падкрэсліў Г.Ферхойген.

**Ірына ЛЕЎШЫНА.**

ПРОИСШЕСТВИЯ

## Взрыв в больнице



*Вчера рано утром вспыхнул пожар в пульмонологическом отделении 4-й клинической больницы Минска. К счастью, обошлось без жертв. Фельдшер-лаборант больницы с ожогами разной степени тяжести находится в реанимации. От осколочных ран и травм пострадало 5 человек.*

Взрыв прогремел в 9.12 на пятом этаже больницы. Вмиг весь этаж охватил огонь. По-видимому, взрыв был сильный, потому что из окон вылетели стекла.

Позже сотрудники МЧС назвали причину происшествия — нарушение правил безопасности при ведении работ с огнем. Дело в том, что в здании клиники проводится текущий ремонт. И в тот момент, когда строители проводили сварочные работы в процедурном кабинете пульмонологического отделения, взорвался ацетиленовый генератор.

В момент взрыва мимо процедурного кабинета проходила медсестра клиники Людмила Русак... С ожогами разной степени тяжести женщину срочно доставили в реанимацию. Врачи говорят, что Людмила Николаевна в сознании, ничего ее жизни не угрожает. Но как долго ей придется пробыть в этом отделении, прогнозировать никто не берется.

В момент взрыва около кабинета ЭКГ своей очереди ждала 68-летняя Клавдия Шнык. Взрывной волной ее отбросило к стене. С черепно-мозговой травмой женщина госпитализирована в отделение хирургии. У Клавдии Дмитриевны шок. О том, что произошло, она говорить не может.

Еще четверо человек получили легкие травмы.

Имели ли право строители проводить сварочные работы на этаже, где идет лечебный процесс? Отвечать на этот вопрос главврач больницы Александр Троянов вежливо отказался. Кто будет нести ответственность за случившееся, тоже пока не ясно. Вчера на месте происшествия работала следственно-оперативная группа прокуратуры Московского района Минска и городской прокуратуры. Возбуждено уголовное дело по факту нарушения правил охраны труда.

Надо отметить, что сотрудники МЧС в этой ситуации сработали оперативно. Несколько пожарных машин прибыли на место происшествия буквально через пару минут. В 9.27 пожар был локализован.

**Мария ЭЙСМОНТ.**

**На фото:** *на месте взрыва.*

**Фото photo.bymedia.net**

## Офіс АБСЕ: абсалютна зразумела, што змяненняў выбарчага заканадаўства да парламенцкіх выбараў не будзе

*"З боку беларускіх улад няма жадання і гатоўнасці ўнесці змяненні ў выбарчае заканадаўства. Зараз стала абсалютна зразумела, што да парламенцкіх выбараў у кастрычніку 2004 года гэта не адбудзецца". Такое меркаванне выказала прэс-сакратар мінскага Офіса АБСЕ Хайдзі Сміт на прэс-канферэнцыі ў Мінску 11 мая.*

Яна паведаміла, што дэлегацыя Бюро па дэмакратычных інстытутах і правах чалавека (БДІПЧ) АБСЕ, наведаўшая Мінск у пачатку красавіка 2004 года, падчас сустрэч з прадстаўнікамі беларускага Цэнтрвыбаркама яшчэ раз заявіла аб неабходнасці змянення Выбарчага кодэкса, у прыватнасці, па пытаннях пашырэння правоў назіральнікаў, удасканальвання працэсу выдачы апеляцый і датэрміновага галасавання. БДІПЧ АБСЕ, адзначыла Х.Сміт, таксама не раз прапаноўвала правесці шэраг семінараў з мэтай публічнага абмеркавання пытанняў падрыхтоўкі і правядзення парламенцкіх выбараў, аднак ніякага афіцыйнага адказу на гэтыя прапановы дагэтуль не было.

Офіс АБСЕ спадзяецца, што на працягу найбліжэйшых месяцаў у Беларусь прыедзе місія БДІПЧ для правядзення тэхнічнай ацэнкі працэсу падрыхтоўкі да выбараў. Гэтую працэдуру, адзначыла прэс-сакратар, БДІПЧ АБСЕ праводзіць у тых краінах, дзе яна мае намер ажыццяўляць назіранне за выбарамі. Аднак пакуль Офіс АБСЕ яшчэ не атрымаў "дакладных тлумачэнняў наконт таго, ці будзе беларускі бок накіроўваць БДІПЧ афіцыйнае запрашэнне для назірання", сказала Хайдзі Сміт.

**Вольга ЛАПІКАВА.**

## У Баранавічах — новы універсітэт?

*Да 1 верасня ў Баранавічах павінен адкрыцца новы універсітэт. Такое даручэнне Міністэрству адукацыі і Брэсцкаму аблвыканкаму даў Аляксандр Лукашэнка на нарадзе 12 мая, паведаміла прэс-служба кіраўніка дзяржавы.*

Падчас нарады А.Лукашэнка зазначыў, што Беларусь — "кампактная краіна" з "добра развітай адукацыйнай інфраструктурай". "Мы можам падрыхтаваць спецыялістаў для рэгіёнаў у абласных цэнтрах і сталіцы", — сказаў ён.

Меркаванне прэзідэнта падтрымалі члены ўрада, паведаміла прэс-служба.

"Новая ВНУ не павінна быць "класічнай". Неўзабаве патрэбна будзе вызначыць яе профіль. Вы павінны рыхтаваць не юрыстаў, эканамістаў, бухгалтараў, а спецыялістаў пад заказ. Дзяржава ўкладвае грошы, таму неабходна ствараць "прадукт", запатрабаваны нашым грамадствам", — падкрэсліў А.Лукашэнка.

Як паведамляе прэс-служба прэзідэнта, праект стварэння ў Баранавічах ВНУ будзе дапрацаваны і прадстаўлены ў сціслыя тэрміны на разгляд кіраўніка дзяржавы. Адказнасць за рэалізацыю даручэння ўскладзена на міністра адукацыі і кіраўніцтва Брэсцкага аблвыканкама, кантроль і каардынацыя — на старшыню Камітэта дзяржкантролю.

Прэзідэнт таксама выказаў намер асабіста пракантраляваць выкананне яго даручэнняў і ў верасні наведаць Баранавічы.

**Юрый ПАЦЁМКІН.**

## Курсы замежных валют

*На 14 мая Нацыянальны банк Беларусі ўстанавіў наступныя афіцыйныя курсы замежных валют:*

1 долар ЗША — 2156,00 рублёў
1 еўра — 2558,85
1 расійскі рубель — 74,15
1 аўстралійскі долар — 1491,31
1 балгарскі леў — 1314,63
1 дацкая крона — 343,81
1 СДР — 3109,47
1 ісландская крона — 29,12
10 японскіх іен — 189,16
1 казахскі тэнге — 15,74
1 канадскі долар — 1549,69
1 кувейцкі дынар — 7313,18
1 кыргызскі сом — 49,29
1 латвійскі лат — 3903,68
1 літоўскі літ — 741,01
1 малдаўскі лей — 178,18
1 нарвежская крона — 312,69
1 польскі злоты — 535,25
1 сінгапурскі долар — 1251,12
10.000 турэцкіх лір — 13,89
1 украінская грыўна — 404,66
1 англійскі фунт стэрлінгаў — 3815,69
1 чэшская крона — 79,90
1 шведская крона — 279,75
1 швейцарскі франк — 1664,54
1 эстонская крона — 163,53

ГЛАС НАРОДА

# Что меня удивляет...

Как известно, недавно А.Лукашенко пообещал крупное поощрение чиновникам в виде повышения зарплаты. Да и как же!

Наши чиновники без жирной подачки могут ведь и о законах страны вспомнить, и о незаконности предполагаемого референдума, и о нарушении Конституции Беларуси уже самим фактом разговоров соратников Лукашенко о его возможных притязаниях на третий срок правления.

Считаю, что в условиях острого дефицита бюджета разбазаривание бюджетных средств на зарплаты чиновникам только из-за того, что они якобы не способны устоять перед взятками, выглядит настоящим преступлением перед народом. Почему все должны затягивать пояса, а чиновники-взяточники — нет? Это что, особая привилегированная каста в нашей стране?

Кстати, о референдуме. Это у нас давным-давно превращено в шоу. Вспомним, как ловко удалась в прошлый референдум манипуляция с поставленным на референдуме вопросом "Поддерживаете ли Вы идею объединения с Россией?". Я написала: "Да" — союзу с Россией, "Нет" — Лукашенко". Комиссия на мой устный вопрос ответила, что такие бюллетени считаются испорченными. Ответ принимался только в комплекте, как сросшееся задами чудище.

Теперь мы имеем опыт в этом деле, и я очень прошу всю оппозицию Беларуси объединиться, чтобы не допустить во второй раз аналогичной формулировки.

Если референдум все-таки будет, то нужно обязательно настоять, чтобы вопрос был сформулирован предельно понятно: "Согласны ли Вы, чтобы президент страны снова пренебрег Конституцией и, нарушая ее, остался править третий срок в случае своей победы, незаконно участвуя в выборах?" или что-нибудь помягче, но чтобы было абсолютно понятно, за что люди голосуют: и те, у кого нет денег на газеты, и те, у кого неисправен телевизор, и те, кто никогда не слушает ничего "про политику", не желая портить себе нервы.

Я думаю, что многие, как и я, с тревогой услышали из уст Лукашенко о том, что у нас в стране есть "отморозки", готовые к крайним действиям, если его не изберут на третий срок. Лукашенко прямо сказал, что тогда у нас начнется "Чечня в квадрате, Косово по-белорусски".

Заметили, как нагнетаются страсти? И не со стороны оппозиции.

Хочу сказать: вокруг нас во всем мире президентов меняют через положенный срок, а террор возникает в основном там, где сидели диктаторы. Или исходит из диктаторских гнезд. Я лично думаю, что ни один человек не застрелится "от горя" и уж тем более не станет стрелять в соседа по поводу ухода А.Лукашенко.

Смиренность народа Беларуси достигает таких пределов, что вызывает гласный восторг властей. В таком случае остается открытым вопрос: зачем же тогда у нас такое количество ОМОНа, других спецструктур, как опят на сгнившем пеньке — ствола не видать? От кого и кого они столько лет защищают?

Не им ли предстоит сыграть роль "отморозков оппозиции", о которой предупредил народ Лукашенко?

Не понравилась мне идея Лукашенко о создании детских организаций. Невольно вспоминается образ фашистского гитлерюгенда или бывшего рассадника-питомника "Павликов Морозовых". Я считаю, что идеология детских организаций должна основываться исключительно только на одних общемировых ценностях: на принципах любви друг к другу, дружелюбия, умении прощать, на умении слушать других и принимать чужое мнение. Без малейшей примеси истеричного патриотизма: любовь к Родине произрастает сама в чистых душах. Без малейшего насилия и навязывания мировосприятия. А то ведь поорем, поорем о своей исключительности, и исключат из мирового сообщества.

Вспомните, как легко и весело было вступать в ряды пионеров-комсомольцев. Но уйти оттуда можно было только или будучи "исключенным с позором", или, отпрыгнув в сторону, тихонько затаиться. Зачем сегодняшним детям испытывать на себе сладость подобного паскудства? Я — против.

Меня удивило, что А.Лукашенко, выступая перед парламентариями, не раскрыл перед народом свою истинную роль в "газовом конфликте".

Если бы два генерала не сцепились, его вообще бы "замолчали". Но если генерал Фролов задал вопрос по существу, то второй генерал, считаю, вылез просто для того, чтобы подать реплику о своих верноподданических чувствах. Александр Григорьевич, друг России с советским "Знаком качества", не поделился в своем обращении к парламентариям и народу тем, что Беларусь стала воровать газ у России, не желая заключать контракт на его поставку. Отключив газ, нам просто дали по рукам, как ворам. Да еще и опозорились в этом качестве на весь мир.

А сейчас мы живем, по словам А.Лукашенко, под прицелом газовой трубы.

Пикантнейшая ситуация.

Ну и куда же этой трубой нам прицелились, позвольте узнать, Александр Григорьевич, на этот раз? Уж ни в незаконный ли референдум, который вы наверняка решили устроить? Стоило бы назвать вещи своими именами...

Много еще чего можно отметить, но, думаю, что "Народная воля" и этого-то не напечатает...

С уважением —

**Галина АНШУКОВА, жительница Минска.**

